Да заканчэння падпіскі на «Народную Волю» на першую палову 2013 года — крыху больш за тыдзень. Не спазніцеся!

№№197–198
(3736–3737)

18 снежня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## «Хто ж будзе за такія грошы ламаць спіну на марозе і ў завею?»



*Не скажаш, што зіма сёлета прыскочыла знянацку: усё дакладна па календары — і снег з завеямі, і мароз у меру... Здавалася, сталічная мэрыя з усімі яе снегаачышчальнымі службамі павінна была сустрэць завіруху ў поўнай гатоўнасці. Але і на гэты раз — прабуксоўка...*

Па словах намесніка генеральнага дырэктара ГВА "Гарамаўтадар Мінгарвыканкама" **Анатоля Жамоздзіка,** у Мінску не хапае каля 30 працэнтаў ад неабходнай колькасці работнікаў, якія павінны быць заняты на ачыстцы снегу. Але чаму не хапае?.. Па маім двары дык і не скажаш: снег ад ранку прыбраны, тратуарчыкі чыстыя — ні табе гурбаў, ні замеценых сцяжын. Канечне, адзін двор яшчэ не паказчык, таму шыбую на "зімовую фотасесію" — падалей ад "Стольнага"...

І напраўду, снегу напёрла — па самыя бамперы машын. І пад'язныя дарогі замецены так, што толькі джыпу ці хамеру па сілах іх пераадолець. Затое па Рафіева і Алібегава машын як звычайна — не перайсці вуліцу. Адзіная загвздка для снегаачышчальнікаў — прыпаркаваныя на абочынах аўто. Яны — ну як тая костка ў горле: ні выдыхнуць, ні ўдыхнуць, ні праглынуць... Тралейбусы, аўтобусы з цяжкасцю агінаюць гэтыя снежна-сталёвыя выспы, стараючыся не зачапіць прыватную ўласнасць.

Але дзе снегаачышчальныя трактары ды машыны? Няма — ні на Алібегава, ні на Рафіева, ні ў дварах... Мо "штабныя" кінулі ўсіх куды-небудзь у цэнтр?..

Па дарозе да праспекта Газеты "Звязда" вырашыў праведаць ЖЭС №90 — там жа ўсё ведаюць. Начальніка не застаў, затое з майстрамі, адказнымі за "зіму", пагутарыў. Тры жанчыны ледзь не ў адзін голас скардзіліся: не хапае рук, спецыяльнай тэхнікі. *"Ну дзе відана,* — казала адна, — *каб замест двух пад'ездаў работніца прыбірала тры-чатыры ды яшчэ вакол іх чысціла тыя тратуары ад снегу?! А прыходзіцца... Больш за тое, на ўборку выходзяць і сантэхнікі, і электрыкі, і бухгалтары".* Яшчэ яны распавялі, як на тыдні былі сведкамі канфлікту. Сутнасць яго ў наступным: прыбіральшчыкі-снегаачышчальшчыкі з ЖЭСа №109 (ЖРЭА Маскоўскага раёна) — забілі ў хамут, значыцца, уваткнулі свой саўкова-шуфельны інструмент у снег і адмовіліся працаваць. А чаму? Атрымалі квіткі на зарплату, а там — даруйце — кукіш у выглядзе аднаго мільёна трохсот тысяч, у лепшым выпадку — паўтара мільёна цалковых... Здзек дый годзе! Хто ж будзе за такія грошы ламаць спіну на марозе і ў завею?..

Як бы там ні было, але снегаачышчальная тэхніка — два "Беларусы" з чысцілкамі-круцёлкамі — трапіла пад мой аб'ектыў. І адразу стала цёпла на сэрцы: не спяць нашыя камунальшчыкі, барукаюцца з сумётамі. Канечне, два-тры "Беларусы" на мікрараён — не тая сіла, каб управіцца як след з гурбамі, але астатняе даробіць адліга. Ці які-небудзь апакаліпсіс... праз пару-тройку дзён...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## *Далучыся да віншавання палітвязняў!*

*Напярэдадні Калядаў і Новага года вельмі важна падтрымаць тых, хто вымушаны сустракаць светлае свята Божага нараджэння за кратамі, удалечыні ад сяброў і родных.*

Вядома, кожны ліст, кожная паштоўка для зняволеных — гэта вялікая радасць, яна надае веры і ўпэўненасці, што пра цябе памятаюць і чакаюць. Менавіта таму паштоўкі, зробленыя сваімі рукамі, асабліва каштоўныя, бо яны нясуць энергетыку чалавека, які патраціў не толькі час, але прыклаў таксама і душу.

Майстар народных рамёстваў, аўтар работ-выцінанак "Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека" Вольга Бабурына запрашае наведаць дабрачынны майстар-клас па выразанні з паперы розных нескладаных узораў — сняжынак, ялінак, вазонаў, вожыкаў і іншага і па вырабе саматробных калядных паштовак, інфармуе spring96.org. Ён адбудзецца ў суботу, 22 снежня, у 16.30 на сядзібе Партыі БНФ па адрасе: Мінск, вул.Чарнышэўскага, 3. Пры сабе дастаткова мець вострыя нажніцы, пазітыўны настрой і жаданне далучыцца да добрай справы. Нагадаем, што таксама ў офісе Партыі БНФ працягваецца выстава згаданых выцінанак "Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека".

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### КАГО ВЫ МОЖАЦЕ ПАВІНШАВАЦЬ

**Васіль Парфянкоў**
225413, Брэсцкая вобл., г.Баранавічы, вул.Брэсцкая, 258, СІЗА№6.

**Алесь Бяляцкі**
213807, Магілёўская вобл., г.Бабруйск, вул.Сікорскага, 1, папраўчая калонія №2, атрад №14.

**Эдуард Лобаў**
225295 Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, "Воўчыя норы", а/с 20, папраўчая калонія №22.

**Мікола Статкевіч**
212011 г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.

**Зміцер Дашкевіч**
230023, г.Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1.

**Павел Севярынец**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в.Куплін, ПУАТ-7.

**Мікалай Дзядок**
212011 г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.

**Аляксандр Францкевіч**
225295 Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, "Воўчыя норы", а/я 20, папраўчая калонія №22.

**Ігар Аліневіч**
211440 Віцебская вобл., г.Наваполацк, вул.Тэхнічная, 8, папраўчая калонія №10.

**Яўген Васьковіч**
212011 г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.

**Арцём Пракапенка**
212013, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК №15.

**Мікалай Аўтуховіч**
230023, г.Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Людоедство

Еще недавно государственная пресса заходилась от восторга: рядовая районная больница — и такой уровень медицинского обслуживания!

Оно и правда, еще десять лет назад и представить невозможно было, что в каких-то Костюковичах, которые не сразу найдешь на карте, будут по самым современным методикам оперировать сложнейшие переломы конечностей, откроют отделение гемодиализа, начнут выхаживать самых "тяжелых" новорожденных... Представить невозможно было, что сюда, в глухой районный городок на Могилевщине, россияне станут специально приезжать на лечение и платить за это деньги. Но именно так и случилось.

Когда специализированная газета "Медицинский вестник" год назад опубликовала очередное сообщение о провинциальных медиках, которые в могилевской глубинке творят чудеса, к статье, размещенной на сайте, появились показательные комментарии.

*"Скажу я вам всем! Это заслуга главного врача Костюковичской ЦРБ Шилько Леонида Ивановича. Я знаю его долгие годы. Он молодец, что собрал таких умных травматологов, хирургов. Если эти люди делают такие серьезные операции, это только заслуга Шилько... Врачи, цените Леонида! Это сильный руководитель медицины и сильный хозяйственник... Поздравляю вас, ребята, хоть я вас и не знаю!"* — написал некто Игорь Петрович.

*"Леонид Иванович, большое спасибо за организацию работы травматологического отделения и врачей, которые творят чудеса!!! Дай Бог Вам крепкого здоровья и долгих лет жизни"*, — это уже оставила отзыв пациентка Галина.

*"Леонид Иванович! Я знал, что Вы будете поднимать больницу все выше и выше. Вы всегда умели сплотить и подобрать качественный коллектив.... Костюковичская ЦРБ — это не Ваш уровень, Вам нужно всей республике отдавать свою энергию и свой опыт в здравоохранении, а не в районе. Плохо, что кадры из провинции не интересуют столицу. Хотя министр Вам несколько лет назад жал руку за то, что Ваша больница заняла первое место в области и третье в республике. Я надеюсь, мои слова услышат, что нельзя такие кадры оставлять без внимания!!!"* — это написал доктор из Витебска по имени Олег.

И действительно, не оставили такие кадры без внимания. Но теперь госпресса будто набрала в рот воды.

Костюковичи — маленький городок, где все друг друга знают. После произошедшего многие в шоке. То, что случилось, — как гром среди ясного неба. Как тень из далекого 1937-го, вернувшаяся к 75-летнему юбилею страшных, бесчеловечных, бессмысленных репрессий. Когда люди, судьбы, жизни перед государственной машиной были ничем. Пылью.

...Сначала уважаемого в районе и области человека, главного врача районной больницы Леонида Ивановича Шилько в считанные часы выбросили из служебной квартиры. Причем делали это в такой спешке, что даже не дали времени подыскать другое жилье, собрать вещи. 15 часов на все про все — и человеку, портрет которого не один год висел на районной Доске почета, оказалось элементарно негде переночевать.

На фоне этого стресса у Леонида Ивановича, который ранее перенес инфаркт, случился еще и инсульт. И он сам стал пациентом своей больницы. Бывшие подчиненные дважды вытаскивали его практически с того света.

Вытащили. Выжил. Хотя левая часть тела осталась парализованной.

Тем не менее 5 декабря главврачу Костюковичской районной больницы предъявляют обвинение и постановление об аресте. Перевозят сначала в Могилевскую больницу, потом, несмотря на протесты врачей, — в СИЗО.

Причем в декабре (!) забирают даже без верхней одежды, в синтетическом костюме и легких туфлях. В такой жуткой спешке, будто полупарализованный человек после инсульта может куда-то и от кого-то убежать.

Что же такого страшного случилось в Костюковичах, чем объясняется такой бесчеловечный арест? В больнице под руководством главврача залечивали людей, экспериментировали с эвтаназией, незаконно изымали органы, торговали наркотиками?..

Боже упаси!

Просто ревизия выявила, что больница почему-то закупала запчасти для автомобилей, которых на балансе медиков нет.

Нарушение? Конечно, нарушение. Правда, у главврача нет машин тех марок, для которых закупались эти запчасти. Зато подходящий "автопарк" можно собрать, если глянуть, на каких личных авто ездят механики, энергетики, экспедиторы и иной технический персонал Костюковичской больницы. Более того, сложно предположить, что главврач лично составлял список автозапчастей, которые нужно купить для больничного гаража, — скорее, он просто подмахивал готовые документы.

Но дело даже не в этом.

Допустим, виновен. Допустим, какие-то там запчасти закупили неправильно, незаконно, нарушили, растратились. Ну так увольте виновного. Обяжите его все деньги вернуть казне и еще штраф сверху навесьте. И закон будет соблюден, и виноватому — наука. Но зачем же добивать человека? Зачем его, больного, едва живого, не способного ни ходить, ни толком за собой поухаживать, арестовывать и забирать в следственный изолятор? Не убийцу, не насильника, не изувера какого-то, а человека, который всю жизнь делал святую работу — спасал людей. Врача, который своим многолетним трудом заслужил и слова благодарности пациентов, и уважение коллег, и многочисленные почетные грамоты, и высшие квалификационные категории, и звание отличника здравоохранения...

Зачем? Кому от этого лучше, легче, спокойнее?

Почему все заслуги оступившегося однажды человека в один момент могут перечеркнуть какие-то мальчики в погонах? Почему они от недоумия или от вседозволенности могут измываться над любым? Даже уважаемым, даже немолодым, даже полупарализованным... Почему им по должности можно наплевать и на мораль, и на человечность?.. И даже на здравый смысл наплевать. Ведь в деле Шилько не миллионы украденных долларов стоят на кону, не какие-то умопомрачительные преступления и растраты. Главврачу Костюковичской больницы пытаются вменить незаконные закупки запчастей на сумму 2—3 тысячи долларов. И всем понятно, что после перенесенных инсульта и инфаркта в условиях СИЗО Леонид Иванович может просто не дожить до суда, и тогда вообще некого будет наказывать, некому будет возмещать эту сумму государственной казне.

Но здравый смысл не может остановить карательный конвейер. Похоже, думать — это вообще не его задача.

5 декабря (!) наши так называемые стражи закона арестовали больного человека и увезли его за 160 километров от дома, даже не взяв верхнюю одежду. То есть они даже не отдавали себе отчета, что перед ними человек, которому зимой нужны куртка и шапка. Ведь при таком морозе и в камере холодно, и даже если перевозить полупарализованного из СИЗО в реанимацию и обратно, то его надо во что-то одевать. Но такое впечатление, что вампиры вцепились в жертву и настолько обезумели от "вкуса крови", что уже не понимали, что перед ними именно человек. Для них он, еще не осужденный, еще не признанный виновным, уже стал чем-то наподобие вещи, с которой можно делать все, что угодно.

Но и это еще не весь ужас истории.

*"06.12.12 г. мне позвонил следователь УКГБ по Могилевской области и сказал, чтобы наш сын приехал на допрос на час-полтора. Никакой повестки не присылали. 07.12.12 г. сын уехал, позвонил, что заходит в здание УКГБ. Это было приблизительно 10.50. И после этого четыре часа я с сыном уже не могла выйти на связь. Когда наконец он дал мне о себе знать звонком, то его слова были такие: "Таких извергов еще никогда не видел!" Остальное он рассказал дома. Четыре человека поочередно и вместе морально выбивали из него показания. Выводили его из кабинета и вели в камеру сажать, угрожали, что он больше не увидит своего ребенка, что его сын будет в жизни изгоем, что отец в СИЗО не выживет. Затем, когда остался один следователь, он взглядом показал на катушку с нитками и иглой на столе. Затем взял иглу, приставил к руке сына. Но сын сказал: "Коли сильнее". Следователь схватил иглу и с силой ударил ею в катушку с нитками..."*

Это рассказ Аллы Георгиевны Шилько. Тоже врача с многолетним стажем, кардиолога, которая от всего происходящего теперь не знает, как справиться с собственным сердцем. Потому что призраки НКВД восстали из далекого прошлого и зловеще нависли над ее семьей. Алла Шилько пишет президенту и просит только об одном: *"Выпустите мужа. Под залог, под подписку, как угодно, только чтобы он жил. Если он виновен, то накажите, дайте штраф. Но зачем же убивать? Зачем измываться над семьей?"*

Действительно, зачем? Кому нужна такая правоохранительная система, которая в основе, в сути своей, жестока, бесчеловечна и несправедлива? Почему именно у нас возродилась эта форма государственного людоедства, перед которой любой человек — пыль?

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Год прожить — не поле перейти...

*В пятницу 21 декабря с 13.00 до 15.00 в редакции "Народной Воли" пройдет прямая линия с главным тренером сборной Беларуси по футболу* ***Георгием КОНДРАТЬЕВЫМ.***



Уже год, как Георгий Кондратьев руководит белорусской футбольной сборной. Кроме того, в этом году исполнилось 30 лет с того времени, как минское "Динамо" стало чемпионом СССР, и Кондратьев тогда был одним из лучших нападающих в команде.

Что удалось тренеру сделать в 2012 году? Каковы основные проблемы? Есть ли перспективы у отечественного футбола? Можно ли сравнить "Динамо" тридцатилетней давности и нынешние белорусские команды?..

Георгий Петрович готов ответить на любые ваши вопросы! Задать их можно будет 21 декабря по телефону: **(0172) 328-68-41.**

Заранее вопросы присылайте на электронный адрес: nv@promedia.by (не забывайте сделать пометку "Вопрос Кондратьеву").

ПАД ГРАДУСАМ

## *Снегапады спыняцца, а марозы ўзмоцняцца*

*Па прагнозах сіноптыкаў, на гэтым тыдні надвор'е нарэшце супакоіцца.*

Моцныя снегапады спыняцца, вецер паступова сціхне, і на большай частцы краіны ўстановіцца марознае надвор'е. Цяплей будзе па захадзе краіны, халадней — па ўсходзе.

**У аўторак** тэмпература паветра мінімальная ўначы -13...-18˚C, пры праясненнях па ўсходзе да -20˚C, максімальная днём -12...-16˚C; у заходніх раёнах на працягу сутак -7...-11˚C.

***У сераду—пятніцу*** тэмпература паветра мінімальная ноччу -10...-17˚C, па паўночным усходзе -18...-22˚C, максімальная днём -10...-15˚C; па паўднёвым захадзе краіны на працягу сутак -6...-9˚C.

***У выхадныя дні*** тэмпература паветра на працягу сутак -10...-15˚C, ноччу пры праясненнях -16...-20˚C.

*Не быў бы я Вярцінскім, не быў бы Анатолем, калі б не аформіў падпіску на «Народную Волю»! На новае ўжо паўгоддзе падпісаўся — дый годзе!*
*Анатоль Вярцінскі.*



КВАДРАТНЫЕ МЕТРЫ

# За одну квартиру в Минске можно купить две на море

*Наши соотечественники все охотнее делают ставку на заграничную недвижимость— дома на курортах зачастую доступнее по ценам минских квартир "типовых потребительских качеств". Пока белорусы думают, как бы перебраться на старости лет в тепло, пенсионеры из России и Казахстана заселяют минские новостройки.*

## Дешевле краденого

Состоятельные белорусы все чаще приходят к выводу, что нужно вкладывать кровные не в отечественное строительство, а в заграничную недвижимость. Если уж решают выйти за рамки, то преимущественно в морском направлении — белорусов манит побережье Болгарии. Во-первых, гостеприимная земля изъезжена вдоль и поперек туристами еще с советских времен. Во-вторых, там дешево. Цена квадратного метра в Софии на первую половину 2012 года составляла не более 750 евро. В других городах цены еще ниже — от 341 евро в Шумене, 353 евро в Велико-Тырново до 735 в Варне.

Шансы "спастись за недорого" давно оценили украинцы и россияне. По данным риелторских агентств, сегодня в Болгарии недвижимостью владеют около 300 тысяч россиян. Белорусов пока что меньше, но нас ждут. Попробуйте в интернете ввести в поисковик кодовую фразу "*купить квартиру в Болгарии*". Сервис выдаст несколько сайтов с предложениями, которые ориентированы на белорусов. Какой житель нашей страны не начнет пускать слюнки, когда увидит, что квартира в приличном состоянии в удобном месте может стоить 20 тысяч евро? В два или даже три раза дешевле, чем в Минске! Перспектива раз и навсегда забить место под солнцем пьянит. В этом радостном угаре многие и попадаются на удочку мошенников.

## Как не прогореть на солнце?

В фойе любого софийского отеля вместе с картой города русскоговорящему туристу обязательно предложат несколько рекламок от риелторских агентств. В рекламе вы найдете все что пожелаете — избушку в горах или целый отель у моря. Цены сказочные. Например, компания "Домика" предлагает дома в новостройках курортного городка Бяла по цене от 16.500 евро. Правда, перед тем как кидаться на халяву, стоит навести справки. В интернете на тематических форумах тысячи сообщений от обманутых потребителей. Некоторые погорели как раз под курортным солнцем городка Бяла. Сразу несколько фирм прекратили строительство квартир, но продолжали требовать плату с дольщиков. Платить те, конечно, отказывались, и в скором времени были "награждены" заказными письмами с требованием немедленно внести деньги за стройку. Иначе контракт аннулируется, недостроенную квартиру конфискуют, а выплаченные деньги останутся в недрах строительной фирмы... К сожалению, выхода из данной ситуации не нашли даже после обращения в суд.

Еще один вид мошенничества вообще невозможно наказать. Иностранцам, которые плохо знакомы с болгарским законодательством, продают квартиры, за которые не выплачена ипотека.

*"Компания оказала некачественную услугу по покупке квартиры, другими словами, она помогла купить ипотечную квартиру, которая выставлена на торги, хотя в нотариальном акте указано, что квартира без обременения,* — жалуется на форуме один из пострадавших. — *Как это можете объяснить? Не иначе как сговором между адвокатом фирмы и застройщиком".*

Конечно, не все болгарские риелторы — мошенники. Между тем правоохранители советуют тщательно проверять фирму, которой вы хотите доверить свои средства.




## Все познается в сравнении

Живя в Беларуси, сложно не засмотреться на иностранную недвижимость. То и дело от друзей и знакомых приходится слышать, что пора поискать счастья за пределами родины. Не секрет, что с места заставляют сниматься высокие заработки, которые маячат за родным горизонтом. Но пока коренные жители озабочены поиском средств к существованию, наша страна стала островком покоя для многих соседей. В России и Казахстане считается хорошим тоном отправлять своих пожилых родителей доживать свой век в белорусские города. Так дети показывают свою заботу: в Беларуси низкий уровень преступности, нет языковой проблемы, а имея российскую или казахскую пенсию, жить можно весьма благополучно. Вот и дарят бабушкам и дедушкам внуки и дети квартиры в Беларуси.

*"В самом деле, жители Казахстана и России проявляют к строительству квартир в Минске большой интерес,* — рассказал "Народной Воле" представитель компании "Лада ОМС — Инжиниринг". — *Например, в комплексе "Червенский парк" с десяток квартир выкуплен иностранцами. Обеспеченные дети хотят приобрести своим пожилым родителям квартиры поближе к центру".*

В сети на форумах активно обсуждают перспективы переезда в Беларусь. Людям нравится пресловутая чистота и дешевизна страны. Вот только переключаться на местные зарплаты никто не желает.

*"Минск — очень и очень неплох в качестве места для детей и пенсионеров,* — советует соотечественникам житель Алма-Ата **Никита Рикин**. — *Так что, если выбирать между какой-нибудь российской провинцией и Беларусью, уж лучше второе предпочесть".*

Политическая ситуация в стране большинство переселенцев либо совсем не интересует, либо устраивает полностью. Так же новоиспеченные "белорусы" индифферентны к национальному языку. Люди рассуждают логично: если никто не требует, то зачем учить?

**Мария БУДНИК.**

ВІНШУЕМ!

# *Статкевічу прысуджана Міжнародная прэмія імя Вілі Брандта*

*Палітыка ўзнагародзілі "За асаблівую палітычную мужнасць".*

Як паведамляе сайт statkevich.org, прэмія імя Вілі Брандта ўсталявана Сацыял-дэмакратычнай партыяй Нямеччыны за ўнёсак у справу ўзаемапаразумення і міру паміж народамі.

Вілі Брандт (1913—1992) — нямецкі палітык, сацыял-дэмакрат, у 1969—1974 гадах быў федэральным канцлерам Заходняй Нямеччыны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1971 год). Прэмія будзе ўручацца ў гэтым годзе ў другі раз.

Мікалай Статкевіч быў затрыманы пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, у якіх удзельнічаў у якасці кандыдата. 26 мая 2011 года Статкевіч асуджаны за арганізацыю "масавых беспарадкаў" да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Ён не пісаў прашэнне с просьбай аб памілаванні.

ДОСЛОВНО

# Геннадия Вырко выгнали с работы

*Нового председателя концерна "Беллегпром" назначат ближе к Новому году.*

*А внезапно назначенный глава ОАО "Камволь" Виктор Гавриленко теперь думает, как не сесть в тюрьму.*

Вчера А.Лукашенко посетил предприятие "Камволь".

*"То, что я здесь увидел, — это преступная безответственность,* — цитирует belta.by Лукашенко. — *Ну как же так: разбитые стекла — и женщины работают?! Здесь и Ладутько ходил, и Семашко, и Мясникович. Это преступление! И оно наказуемо".*

Обращаясь к **Виктору Гавриленко**, который еще вчера работал на предприятии главным инженером, глава государства отметил, что это его шанс восстановить предприятие. *"Не сделаешь — посажу! Извини, что я так говорю, но выбора нет. Но я не хочу, чтобы ты сидел. Ты мне нужен здесь как директор, и ты должен сделать это предприятие, должен по-хозяйски разобраться, как будет идти модернизация",* — сказал президент.

На предприятии присутствовал также его бывший руководитель, а ныне заместитель председателя концерна "Беллегпром" **Андрей Мытник**. *"Вы довели предприятие до ручки?* — обратился к нему Александр Лукашенко. — *Вы знаете, что о вас говорят в вашем концерне? Зачем его сюда взяли? Он ведь не принимает никаких решений! Никаких! И мешает другим работать. У него руки дрожат, он боится всех, а своим подчиненным запрещает к руководителю заходить даже: не лезьте, не идите. Он даже не читает документы, просит своих подчиненных: вы мне птички поставьте, где я должен почитать. Вы это знаете?"*

*"Руководителя концерна и бывшего директора, который провалил здесь все и которого он себе заместителем взял, — выгнать с работы до вечера! И до Нового года внести предложения по назначению руководителя "Беллегпрома",* — распорядился А.Лукашенко. *"Не надумайтесь еще назначить бездельника какого исполняющим на это время, ибо пойдет Кобяков сюда работать",* — предупредил он.

ЧУЛІ?

# *У Мінску з чаргі на жыллё знялі больш за 13 тысяч чалавек*

Гэта адбылося пасля зверкі спісаў тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

Гэтая праца працягнецца да 1 красавіка, пакуль выканана толькі 26%, паведамілі на нарадзе ў Мінгарвыканкаме.

Агулам у сталіцы на ўліку тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, знаходзяцца амаль 265 тысяч чалавек.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

*Елена МОЛОЧКО*



# О сервисе и холуйстве,
## *или Как нас обслуживают?*

До отправления поезда было еще минут 20. Я стояла на железнодорожном вокзале в Киеве и любовалась проводницами нашего фирменного состава "Белый аист", который вот-вот должен был отправиться в Минск. Красивые форменные пальто, белые пуховые береты и шарфики, да и сами девочки на загляденье, молодые, ладненькие. Пассажиры степенно заходили в чистые вагоны — как приятно, когда тебя ждут прибранные купе, когда все чин чинарем подготовлено, продумано. Вдруг из 10-го вагона вышел на перрон немолодой пассажир и нервно поинтересовался, почему не расстелена постель. Он был на взводе: *"Мне, инвалиду, да еще на верхней полке таскать матрасы тяжело!"* Проводница сказала, что это не входит в ее обязанности. *"Но мы заплатили вам такие деньги за билет!"* — продолжал мужчина возбужденно. Да уж, цены на поезда теперь баснословные... "*Кому это "вам"?* — вдруг раздраженно рявкнула проводница. — *Лично мне вы ничего не платили!"* Из "фирменной" девушки, обаятельной хозяйки вагона, вдруг выглянула такая "комаровка", такая вульгарная торговка... Это было довольно оскорбительно. И на что, собственно, намекала проводница — заплатить лично ей, дать на "лапу", на чай, тогда она возьмется за услугу? *"Э-эх!"* — только и ответил человек.

Это было аккурат 6 декабря вечером. Я не вмешивалась в диалог — кто любит воспитание со стороны? Но надеюсь, что старшие по званию товарищи объяснят молодому работнику (хотя уверена, что уроки вежливости на Белорусской железной дороге проводятся постоянно), что ответить отказом пассажиру можно и нужно (мы ведь действительно не знаем всех тарифов на услуги). Но главное, как это сделать. Можно по-королевски спокойно и доброжелательно. А можно по-базарному крикливо. Проводница 10-го вагона, к сожалению, скатилась до второго варианта, честь фирмы и формы поддержать на заявленном уровне не смогла. И белый берет здесь, как говорится, ситуацию не спас. Оба — и она, и пассажир — остались какими-то обляпанными. Словечко-то не воробей, а, оказалось, настоящая ворона...

Почему нас плохо обсуживают? Когда-то считалось, что все дело в частной собственности: капиталистический сервис априори высокого класса. Что не лишено, конечно, смысла. Одна старая дама, помню, полушутя-полусерьезно говорила своей маникюрше в салоне "Мечта", который до сих пор действует в центре Минска на улице Ленина: *"Нет, я дождусь, дождусь того времени, когда не я за вами, а вы за мной, клиентом, будете бегать!"* В парикмахерском бизнесе сейчас так и произошло. На государственной железной дороге — не буду категоричной — лишь отчасти: она монополист, мы у нее в заложниках. Но дело не только в форме собственности, на мой взгляд. Мне кажется, в нашей ментальности, в принципе, нет (или явно недостаточно) такого качества, как услужливость. В общем, не белорусская национальная это черта. Мне кажется, мы с вами прямые, как рельсы. А иногда надо уметь музыкальным ключом изогнуться... Потому что настоящая услужливость — это артистизм, это предупредительность, это слово, ничего общего с холуйством, раболепием, конечно, не имеющее. В конце концов, услужливость — хорошо конвертируемая валюта. А ее у нас везде дефицит.

Что еще огорчает до глубины души, так это то, что мы, потребители, в принципе, за свои права не умеем и не знаем, как бороться. Опять-таки скажу про транспорт: вот городское маршрутное такси. Мы в Минске платим за проезд нынче немалую сумму — 7 тысяч. Предполагается, что за эти деньги вы получаете место для сиденья и довольно быстрое перемещение по городу. Но в час пик маршрутки из такси превращаются в обыкновенные автобусы, которые подбирают с остановок как можно больше пассажиров, и люди (по собственной воле, конечно) стоят там, как в каком-то колодце, скорчившись в полутьме. При этом тоже, как и сидящие пассажиры, платят по 7 тысяч! Все без чека, естественно. Разве для вас это новость? По умолчанию мы даем заработать частному бизнесу в карман, деликатно входя в их перманентно трудное материальное положение. Но о наших интересах бизнес так не печется, не волнуется. Мало того, что маршрутки — это, как правило, допотопные грязные драндулеты, так еще их название — такси — просто не соответствует заявленной услуге. Едут медленно, пассажиры стоят, всем тесно и неудобно. Это знает горисполком, это знает ГАИ — почему не наводят порядок, почему не пресекают обыкновенное воровство?

Однажды, когда в таком "такси" на моих плечах уже буквально висело несколько человек, я спросила у водителя машины 7 ТАХ 71—30: "Зачем вы останавливаетесь, когда в салоне нет мест?" Он державно посоветовал мне воспользоваться более дорогим видом транспорта (о, знакомые речи: "не нравится — не берите!"). А потом сказал, что вообще может вернуть мне мои 7 тысяч и — вываливайся-ка, дорогуша, из моей маршрутки и топай пешком! И по-купечески протянул денежные купюры...

Вот что такое частный бизнес. У нас. Мы переплачиваем и миримся с обманом. И я даже знаю почему. У большинства белорусов буквально в крови заложена формула "лишь бы тихо". А кое-кто на этом, между прочим, неплохо зарабатывает.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

*Вольга БАНДАРЭНКА:*

# «Я не задумваючыся паехала ўслед за каханым...»

*Цяпер Вольга і Зміцер Бандарэнкі разам з дачкой Юліяй жывуць у Варшаве. Вольга кажа, што ні секунды не разважала, з'язджаць услед за мужам альбо заставацца ў Мінску.*



*"Перада мной нават дылемы такой не стаяла — з'язджаць ці не,* — гаворыць Вольга. — *З таго самага моманту, як Дзіма вырашыў застацца ў Польшчы, я ведала, што паеду за ім. Я проста павінна быць разам з мужам. І не ўяўляю, як засталася б у Мінску зусім адна. Да таго ж у нас некалькі гадоў у Польшчы жыла дачка — яна вучылася ў Кракаве. Так што цяпер мы тут усе разам".*

Жыллёвае пытанне вырашылася даволі хутка — знайсці здымнае жыллё ў Варшаве прасцей, чым у Мінску. Ды і танней.

*"А за мінскай кватэрай наглядае сяброўка,* — распавядае Вольга. — *Але я і сама перыядычна наведваюся ў Беларусь. Напрыклад, не так даўно ўзніклі праблемы з зубамі, трэба было схадзіць да стаматолага. І таму затрымалася ў Мінску нават даўжэй, чым збіралася".*

Вольга і Зміцер Бандарэнкі паступілі ў Варшаўскі ўніверсітэт — вывучаюць паліталогію.

*"Спачатку хадзілі на курсы польскай мовы, а зараз асвойваем навучальны курс,* — кажа Вольга. — *Вядома, не ўсё даецца лёгка. Вучыцца наогул цяжка, а на незнаёмай мове — тым больш. І паколькі я была далёкая ад некаторых рэчаў, то мне зусім не проста. Але цікава!"*

На якія сродкі сям'я Бандарэнкі жыве ў чужой краіне?

*"Дзіма атрымаў невялікую дапамогу ад польскага боку,* — шчыра раскрывае таямніцы сямейнага бюджэту Вольга. — *Яшчэ ў нас дачка тут працуе, яна і яе сябры ўсяляк нам дапамагаюць. Калі б не Юля, давялося б значна цяжэй. Дый жыццё ў Польшчы не такое дарагое, як у Беларусі. І многія прадукты каштуюць значна танней".*

Мары аб вяртанні ў Беларусь Вольга і Зміцер пакуль адклалі да лепшых часоў.

*"Адразу пасля выхаду з турмы і Дзіму, і Андрэю Саннікаву адкрыта пагражалі,* — кажа Вольга. — *Вярнуцца ў Мінск — гэта значыць зноў хадзіць па лязе брытвы, жыць у пастаянным страху, што ў любы момант зноў можаш апынуцца ў турме..."*

Турма, дарэчы, моцна падкасіла здароўе Дзмітрыя Бандарэнкі. Улетку ён прайшоў поўнае абследаванне і курс аднаўленчых працэдур у клініцы пад Вроцлавам. Аднак праблемы ўсё роўна засталіся.

*"Яму нельга насіць цяжар,* — кажа Вольга. — *І нават калі трэба схадзіць у краму, то асноўныя пакупкі нясу я, таму што Дзіму з яго пазваночнікам можна даверыць толькі булку хлеба і пакет малака".*

Па словах Вольгі, Дзмітрый перыядычна пакутуе ад моцных боляў, аднак аб чарговай аперацыі гаворка пакуль не ідзе — урачы не даюць гарантый, што сітуацыя не зменіцца да горшага: *"Таму шукаем нейкія альтэрнатыўныя варыянты аднаўлення".*

Вольга кажа, што ў Варшаве ёй не сумна, хоць сяго-таго з мінулага жыцця і не хапае.

"*Варшава — гэта такі горад, дзе ўвесь час нешта адбываецца не толькі ў культурным, але і ў палітычным плане,* — тлумачыць Вольга. — *Так што сумаваць тут асабліва няма калі. Мы ў курсе ўсіх палітычных падзей, якія адбываюцца ў Беларусі. Адзінае, чаго мне тут не хапае, так гэта сяброваак, якія засталіся ў Мінску. І сваёй кватэры, дзе ведаеш, як і дзе ляжыць кожная рэч. З іншага боку, тут вельмі шмат тых, з кім мы мелі стасункі ў Мінску. І калі адзначалі Дзімаў дзень нараджэння і ўсе сабраліся за адным сталом, было адчуванне, быццам нікуды і не з'язджалі...*

*А з іншага боку... Адзін наш сябра, які застаўся ў Беларусі, нядаўна сказаў: "Не люблю цяпер Мінск, таму што амаль усе сябры з'ехалі, і горад адразу неяк апусцеў..."*

### ДАСЬЕ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

*Зміцер Бандарэнка — каардынатар грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь", сябра і паплечнік Андрэя Саннікава. За ўдзел у акцыі на плошчы Незалежнасці 19 снежня 2010 года быў асуджаны на два гады калоніі агульнага рэжыму.*



*Мілана МІХАЛЕВІЧ:*

# «Ніколі не ведаю, дзе наступны раз пабачымся з мужам...»

*Палітык Алесь Міхалевіч жыве ў Чэхіі,а ягоная жонка з дзецьмі— у Мінску. "Наша сям'я не разбітая, але і не склееная, — гаворыць жонка Алеся Міхалевіча Мілана.— Мы бачымся з мужам прыблізна раз на адзін-два месяцы..."*

"Народная Воля" пацікавілася, што трымае Мілану Міхалевіч у Беларусі. Чаму яна, як тая ж Вольга Бандарэнка, не едзе за мужам?

— Па-першае, калі гаварыць пра эміграцыю, то я гэтае пытанне нават і не разглядаю, — *шчыра адказвае Мілана.* — Для мяне гэты варыянт абсалютна выключаны.

Калі гаварыць пра часовы ад'езд — да лепшых часоў пажыць недзе паўгода ці нават больш са спадзяваннем, што за гэты час сітуацыя ў Беларусі зменіцца ў лепш бок, то... Ёсць прычыны, якія мяне моцна трымаюць тут і не пускаюць за мяжу, да мужа.

Па-першае, на пачатку наступнага года маёй бабулі будзе 105 гадоў, яна ляжачая. Бацьку будзе 80, маме — не буду гаварыць колькі, бо яна пакрыўдзіцца. Ва ўсіх праблемы са здароўем. І мне з дзецьмі, можа, і сапраўды будзе лягчэй побач з мужам, але маім родным без мяне тут будзе адназначна складаней.

А па-другое, я не ўяўляю, куды на гэтыя паўгода ці год ехаць. Таму што ніколі не ведаю, дзе Алесь будзе ў наступныя некалькі месяцаў. Мы бачыліся і ў Празе, і ў Вільні, і ў Варшаве, і ў Берліне. І дзе наступны раз пабачымся, таксама яшчэ не вельмі сабе ўяўляю. Спадзяюся, наша спатканне адбудзецца праз пару тыдняў...

### ДАСЬЕ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

*Алесь Міхалевіч — кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года. Адзін з абвінавачаных па справе аб масавых беспарадках 19 снежня. Атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі. Жанаты, мае дваіх дзяцей.*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

